


# Рэгіянальная газета

6 снежня 2013 года

№ 49 (971)

Тэлетыдзень 26

http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




У гандляроў дзіцячымі рэчамі на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства канфіскуюць тавар.
4-я старонка



Уладзімір Пятроў: "Здзекавацца з коней не дазволю!"
22-я старонка



**навіны рэгіёна**

## Станьце чараўніком

**МАЛАДЗЕЧНА**. Ад 6 снежня ў ГЦ "Спадарожнік" праходзіць дабрачынная акцыя "Ёлка жаданняў", распавяла вядучы спецыяліст аддзела адукацыі **Аксана Курчына**. Ёлка ўпрыгожаная цацкамі са здымкамі выхаванцаў Радашкавіцкай школы-інтэрната, сацыяльна-педагагічнага цэнтра і цэнтра карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі. На шарыках будуць лісты з пажаданнямі, што дзеці хочуць атрымаць у падарунак. "Ёлка жаданняў" будзе працаваць па пятніцах і суботах да 28 снежня. У пятніцу па вечарах і ў суботу ўдзень ля ёлкі будзе Снягурачка. Калі вы жадаеце выканаць мару дзіцяці, можна ўзяць шарык з ёлкі, паведаміць імя і прозвішча Снягурачцы. І вас запросяць на ранішнік, дзе вы зможаце ўручыць падарунак.

**Наталля ТУР.**







# Беларускія ласасёвыя – толькі ў нашым краі

## Першы ў краіне інтэрактыўны адукацыйны цэнтр па захаванні ласосяў з'явіцца на Астравеччыне

**АСТРАВЕЦ. Яго ствараюць на базе Варнянскай яслі-сад-сярэдняй школы на Астравеччыне. Ён запрацуе ў 2014 годзе.**

Пра тое, як ідзе падрыхтоўка цэнтра, распавяла спецыяліст па прыродаахоўных пытаннях грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (АПБ) **Вольга Лукшыц**.

Для валанцёраў "Аховы птушак Бацькаўшчыны" цяпер самы гарачы час. Ад кастрычніка да сярэдзіны снежня ў ласасёвых рыб ідзе нераст. Валанцёры 24 гадзіны ў суткі дзяжураць на рэках, дзе нерастуюць рыбы, якіх трэба ахоўваць ад браканьераў.

**Калі вы хочаце стаць валанцёрам, тэлефануйце па нумарах: 8017-2630613, 8029-3846122. Тут можна атрымаць усю даведачную інфармацыю.**



Фота забяспечана Вольгай ЛУКШЫЦ.

**У Беларусі ёсць толькі два віды ласасёвых – гэта сёмга і кумжа.**

На Беларусі ёсць два віды ласасёвых: сёмга і кумжа. Толькі некалькі дзясяткаў гэтых рыб прыплываюць за 500 кіламетраў з Балтыйскага мора для таго, каб прадоўжыць свой род.

Напрыканцы кастрычніка АПБ пачала працаваць з мясцовымі жыхарамі, дачнікамі і турыстамі над тым, каб удасканаліць іх веды па важнасці захавання ласасёвых на Беларусі.

– Дзякуючы гэтаму мы аператыўна зрэагавалі на інфармацыю сведкаў пра зліў адходаў з СВК "Варняны" ў навакольнае асяроддзе, – адзначае Вольга Лукшыц. – Мы ўжо атрымалі адказ з Міністэрства прыродных рэсурсаў, што такі факт сапраўды меў месца і меры прынялі.

Аказалася, з СВК "Варняны" злівалі жывёлагадоўчыя сцёкі на прылеглую тэрыторыю. Адтуль яны траплялі на бераг ракі Газоўка.

На службовую асобу СВК "Варняны" быў накладзены адміністрацыйны штраф у 10 базавых велічынь. Між іншым, гэта СВК у 2012 годзе прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці больш за дзесяць разоў на суму, большую за 12 мільёнаў.

### Унікальны край, дзе цячэ Вілія

– Мы вырашылі зрабіць цэнтр менавіта на Астравеччыне, бо гэта вельмі ўнікальны край, – кажа Вольга. – Сюды з Балтыйскага мора прыплываюць на нераст ласасёвыя. Цэнтр стане яшчэ адным кампанентам у рэгіёне, які будзе працаваць на павышэнне адказнасці людзей. На тое, каб жыхары ўсведамлялі, што захаванне гэтых вельмі рэдкіх для Беларусі рыб залежыць ад кожнага. Няма ў Беларусі яшчэ адной Віліі.

Вольга Лукшыц звяртае ўвагу, што не трэба ў барацьбе за спакойнае існаванне рыб абмяжоўвацца толькі кардынальнымі мерамі: сядзець увесь час на рацэ ды вартаваць браканьераў. Важна не выкідаць смецце ў рэкі, правільна ставіць туалеты і г.д.

– Ёсць людзі з дрэннымі намерамі, але з добрымі – нашмат больш, – мяркуе Вольга. – Наша задача – дапамагчы атрымаць патрэбныя ім веды. Цяпер працуем над канцэпцыяй працы адукацыйнага цэнтра. Па-першае, думаем над тым, што ў ім хочам паказаць, а па-другое, як паказаць. Мяркуем, сюды будуць прыходзіць не толькі мясцовыя жыхары, але і турысты. А таксама прыязджаць настаўнікі, якія б распавядалі вучням пра рэдкіх рыб і важнасць іх захавання.

Падобныя цэнтры існуюць у Польшчы і Швецыі, але для Беларусі – гэта цалкам новы праект.

Перад распрацоўшчыкамі стаіць важная задача – зрабіць цэнтр сучасным і прывабным для наведнікаў.

– Думаем, з чаго зрабіць мадэлі рыб, як аформіць інтэрактыўныя стэнды, – кажа Вольга. – Думаем стварыць тэматычныя гульні, якія б можна было спампаваць на тэлефон.

**Настасся РОЎДА.**

ЭНЕРГЕТЫКА

# Біягазавы комплекс у Лебедзеве запрацаваў

**МАЛАДЗЕЧНА. 28 лістапада на адкрыцці біягазавай устаноўкі ў аграфірме "Лебедзева", пабудаванай за сродкі Еўрапейскага Саюза, прысутнічала шмат высокіх гасцей.**

Біягазавую ўстаноўку пабудавалі за шэсць месяцаў, што лічыцца рэкордным тэрмінам.

**Фінансаванне праекта – два мільёны еўра за кошт ЕС. Тэрмін акупляльнасці – пяць год.**


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Біягазавы комплекс каштуе два мільярды еўра. Яго пабудавалі за 6 месяцаў.

Падчас свайго выступлення Старшыня Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Майра Мора заўважыла:

– Еўрапейскі Саюз мае вялікі досвед у галіне павышэння дабрабыту на прынцыпах "зялёнага" развіцця. І мы гатовыя гэтым досведам дзяліцца, і дзелімся ім. Такія праекты мы будзем падтрымліваць і далей. Штогод ЕС выдаткоўвае каля 20 мільёнаў еўра на падтрымку розных арганізацый і сектараў у Беларусі, а ў 2007 годзе мы пачыналі з пяці мільёнаў еўра. Спадзяёмся, што мы будзем супрацоўнічаць і далей. Я вельмі рада, што сёння са мной прыехалі мае калегі – прадстаўнікі пяці амбасад ЕС: Чэхіі, Польшчы, Літвы, Славакіі, Італіі.

Першы намеснік міністра энергетыкі Леанід Шэнец распавёў:

– Калі выбіралі месца для праекта, то стаўку зрабілі на Лебедзева, таму што тут падрыхтаваны персанал, і сёння ёсць гэтаму пацвярджэнне. Для Беларусі такія праекты вельмі актуальныя: мы не маем уласных рэсурсаў, залежым ад аднаго пастаўшчыка, таму зацікаўленыя, каб максімальна выкарыстоўваць альтэрнатыўныя рэсурсы. Гэта 15-я падобная ўстаноўка ў краіне.

### Як працуе ўстаноўка


Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

На ферме каровы ідуць самі да робата, які іх доіць і заносіць дадзеныя ў камп'ютар.

Па спецыяльным канале ў гідралізёр трапляе гной з фермы і адходы спіртзавода. Працэс ферментацыі падзелены на дзве стадыі. Спачатку за субстрат бяруцца воцатныя бактэрыі. Потым субстрат падаюць у ферменцёр – будынак з купалападобным дахам, дзе адбываецца асноўная частка ўтварэння біяметану: бактэрыі апрацоўваюць субстрат і ўтвараюць газ. Да метану няма доступу кіслароду, таму ён не пагражае выбухам (прынцып працы падрабязна апісаны на сайце rh.by).

У ніжнім слоі збіраецца біяметан, у верхнім – біягаз. Пасля і субстрат, і біягаз падаюцца ў дабраздавальнік, каб выцісну́ць максімальную энергію. Пасля гэтага этапа субстрат вывозяць і выкарыстоўваюць як вельмі каштоўнае ўгнаенне на палі аграфірмы "Лебедзева", а біягаз пад зямлёй паступае ў газавы рухавік унутранага згарання – сэрца ўстаноўкі. Менавіта там утвараецца электрычная і цеплавая энергія.

Біягазавы комплекс стаў пілотным праектам у межах міжнароднай тэхнічнай дапамогі "Падтрымка рэалізацыі комплекснай энергетычнай палітыкі Беларусі". Абсталяванне забяспечыла нямецкая кампанія LTV. Ролю падрадчыка па будаўніча-мантажных работах выканала маладзечанскае прадпрыемства "КЭМПІ". Устаноўку перададуць на баланс "Мінскэнерга" (філіял – аграфірма "Лебедзева").

З газу, які ўтворыцца з-за дзейнасці бактэрый, можна будзе атрымаць 500 кілават электрычнай і цеплавой энергіі за гадзіну. 70% яе пойдзе на патрэбы аграфірмы, у тым ліку на падагрэў пітной вады для кароў – яшчэ адно новаўвядзенне ў Лебедзеве. 30% энергіі гаспадар будзе прадаваць у агульныя энергасеткі.

Біягазавая ўстаноўка дазволіць не толькі зэканоміць на прыродным газе, але і зарабіць.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ВЫСТУПЛЕННІ

## На канцэрце "Адэліта" не было свабодных месцаў

**ВІЛЕЙКА. Не хапіла месцаў у канцэртнай зале Вілейскай дзіцячай школы мастацтваў вечарам у аўторак. Канцэрт даваў народны ансамбль гітарыстаў "Адэліта".**

Ансамбль арганізаваў у 1990 годзе малады выкладчык школы **Уладзімір Лапцік** і кіруе ім да гэтага часу. Летась калектыву было прысуджанае званне народнага.

У канцэрце таксама прымалі ўдзел выкладчыкі і вучні школы, не толькі ўдзельнікі "Адэліты". Пад акампанемент гітарыстаў і хору старэйшых класаў школы танцаваў харэаграфічны калектыў "Карагод" гімназіі №2 Вілейкі. Спявалі песні выкладчыца **Святлана Каркотка** і кіраўнік калектыву аўтарскай песні "Элегія" **Таццяна Захарыч**, іграла на скрыпцы выкладчыца **Аксана Жук**... Гучалі як класічныя творы, так і тыя, сярод аўтараў якіх былі Уладзімір Лапцік і паэт віляйчанін **Уладзімір Цанунін**.

"Адэліта" штогод прымае ўдзел у канцэртах, святочных мерапрыемствах на Вілейшчыне і ў іншых месцах Беларусі. Пра насычанае жыццё творчага калектыву, які складаецца з вучняў школы, можна прачытаць на сайце ансамбля.

**Мікола ГАЙДУК.**

**Больш фота на сайце**





Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Уладзіслаў Лемяшонак, Захар Чачулін і іх настаўнік і кіраўнік ансамбля Уладзімір Лапцік. Усяго ў ансамблі іграе больш за 10 чалавек.

ЗДАРЭННІ

## Не змаглі ехаць пад гару

**МАЛАДЗЕЧНА. Аўтобусы маршруту 1-а і 6 з-за галалёдзіцы спыніліся каля прыпынку на вуліцы Хмяльніцкага, побач з уваходам у парк, 2 снежня каля 8 гадзін раніцы.**

Калі адзін з пасажыраў выходзіў, паслізнуўся і ўпаў. Яго забралі на "хуткай".

– З пасажырам зараз усё ў парадку, – кажа дырэктар маладзечанскага аўтапарка **Яўстафій Каравай**. – Ад іншых скаргаў таксама не паступала. Сёння раніцай рэзка падмерзла дарога, таму яе не паспелі падсыпаць пяском. Пасля таго, як аўтобусы спыніліся, гэта выправілі. Затрымаліся толькі два рэйсы: аўтобусы №6 і №11-а.

Пасажыры, якім "пашанцавала" ехаць па гэтых маршрутах, не чакалі, пакуль сітуацыю выправяць. Яны ўсе сышлі з аўтобусаў.

**Настасся РОЎДА.**

ФЕСТЫВАЛЬ

## Ці не прыгатаваць на вячэру нахут-шурак?

**МАЛАДЗЕЧНА. На 10-м абласным фестывалі нацыянальных культур, што прайшоў у Маладзечне 30 лістапада, Старадарожскі раён прадставіла сям'я Саміевых з Узбекістана.**

Прыгажуні-жанчыны рознага ўзросту, але ў аднолькавых сукенках – яны ўсе з адной сям'і, на фестываль прыехалі, каб пачаставаць усіх традыцыйнай узбекскай кухняй, а на канцэрце здзівіць узбекскім харазмскім лязгі. Ну, як тут не распытацца пра гэта ў прадстаўніцы таленавітай ва ўсіх сэнсах сям'і Саміевых **Саёры Саміевай**?

– Мы прыехалі на фестываль упершыню. Я працую ў Гарадскім цэнтры культуры і вольнага часу. Нас запрасілі, сказалі, што трэба прадставіць Старадарожскі раён. І вось мы тут!

**– Як доўга вы ўжо жывяце ў Беларусі?**

– 11 гадоў таму мы сюды прыехалі ўсёй сям'ёй. Я, мой муж, дзеці, сёстры, цёткі мае. А чаму ў Беларусь, таму што бабуля мая – беларуска. А ў Беларусі нам падабаецца значна больш. Тут народ гасцінны, ветлівы, ды і ўвогуле, у гэтай краіне ціха і спакойна.

**– А калі збіраецеся за святочным сталом, стравы якой кухні гатуеце: беларускай ці узбекскай?**

– У нас заўсёды збіраецца за сталом шмат людзей, нават пальцаў дзвюх рук не хопіць, каб усіх пералічыць! І збіраюцца людзі розных нацыянальнасцей, таму, каб не пакрыўдзіць нікога, гатуем ежу з розных кухняў. І ўзбекскія манты, і беларуская дранікі.

**– Я бачу на стале страву, назву якой не чула ні разу: нахут-шурак. Што гэта за страва?**

– О, гэта страва гатуецца вельмі проста. Магу навучыць. Нахут – гэта гарох. Замочваем гарох, потым варым яго на булёне з бараніны, упрыгожваем кольцамі цыбулі – і страва гатовая. Смачна есці.

**– Ва ўзбекскай кухні шмат салодкіх і вострых страў. Як атрымоўваецца берагчы фігуру?**

– А хто яе беражэ? Узбекскія жанчыны габарытныя. І ніхто на гэта не звяртае ўвагі. А калі даваць параду, то расхайцеся і шмат танцуйце!

**Наталля ТУР.**

РЫНАК

# Хто каму саступіць?

**БЕЛАРУСЬ. Прадпрымальнікі не спяшаюцца супрацоўнічаць з дзяржаўнымі аптавікамі.**



Фота Настасі РОЎДЫ.

**На маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства.**

Міністэрства гандлю не бачыць асаблівай зацікаўленасці беларускіх прадпрымальнікаў у пастаўках імпартных тавараў з дапамогай дзеючых аптовых арганізацый з доляй дзяржавы.

Сёння ў Беларусі працуе больш за 30 аптовых арганізацый, пэўнымі долямі ў якіх валодае дзяржава, пра гэта на прэс-канферэнцыі 3 снежня заявіла начальнік упраўлення арганізацыі гандлю і паслуг Мінгандлю Віялета Бразоўская.

Гэтыя арганізацыі могуць пастаўляць прадпрымальнікам тавары з усімі суправаджальнымі дакументамі.

Аднак ІП не вельмі актыўна звяртаюцца да паслуг падобных структур.

У той жа час аптовыя арганізацыі працуюць з прадпрымальнікамі па дагаворах, якія былі заключаныя "не адзін год таму", такіх пагадненняў больш за 1,5 тысячы.

Бразоўская распавяла, што 25 лістапада ў Мінску на нарадзе Мінгандлю з прадпрымальнікамі бізнес-супольнасцяў прадстаўнікі дзяржоргана прапанавалі прадпрымальнікам самастойна стварыць камерцыйную аптовую арганізацыю, якая займалася б пастаўкай імпартных тавараў. "Чаму толькі дзяржава павінна ўсім займацца, чаму прадпрымальнікі не могуць паварушыцца адзін да аднаго, тыя ж бізнес-супольнасці не могуць дапамагчы самі сабе?" – задалася яна пытаннем.

### "Шэрым" таварам з Расіі рады не будуць

А пакуль беларускія прадпрымальнікі цураюцца дзяржаўных пасярэднікаў і працягваюць самастойна курсіраваць паміж Мінскам і Масквой у пошуках неабходнага тавару.

Аднак, па розных ацэнках, 30-40% прадукцыі лёгкай прамысловасці на расійскіх рынках нелегальныя – "невядома, як і адкуль завезена, з чаго пашытая", адзначаюць чыноўнікі, перасцерагаючы беларускіх ІП ад ўвозу такой прадукцыі на тэрыторыю Беларусі.

Начальнік упраўлення абароны правоў спажыўцоў і кантролю за рэкламай Мінгандлю Ірына Барышнікава лічыць, што прадпрымальнікі працуюць на свой страх і рызыку.

"Больш за ўсё тавару купляецца ў Расіі, – сказала яна. – Набываючы там безыменны тавар прадпрымальнік, вядома, разумее, што заканадаўства Беларусі такі тавар рэалізоўваць забараняе. Таму, набываючы яго, ён ідзе на відавочную рызыку і ўсведамляе гэта".

Начальнік аддзела дзяржаўнага нагляду і кантролю Дзяржкамітэта па стандартызацыі Алег Бусель паведаміў, што на працягу лістапада інспекцыі наглядных органаў Дзяржстандарту, а таксама міністэрстваў гандлю і аховы здароўя наведалі каля дзвюх тысяч ІП на 218 рынках і ў гандлёвых аб'ектах Беларусі. З іх першаснаму маніторынгу падвергліся 1,5 тысячы ІП, паўторнаму – каля 500 прадпрымальнікаў. Паводле яго слоў, пры першасным маніторынгу парушэнні былі выяўленыя ў прыкладна 80% прадпрымальнікаў, якіх наведалі інспекцыі.

Чыноўнік удакладніў, што асноўныя парушэнні тычыліся закона "Аб абароне правоў спажыўца", у прыватнасці адсутнічала маркіроўка тавару. Гэтым грашылі ІП, якія рэалізуюць бялізнавыя, пасцельныя, купальныя, гарсэтныя, панчошна-шкарпэткавыя вырабы і абутак.

Паўторны маніторынг паказаў, што тэндэнцыя пазітыўная: "ІП ўсведамлялі сваю адказнасць, разумелі, якія меры могуць за гэтым рушыць услед, таму тыя рэкамендацыі, якія былі выдадзеныя пры першасным маніторынгу, у пераважнай большасці канкрэтныя прадпрымальнікі выканалі".

### Прадпрымальнікі напагатове

Разам з тым, паведаміла Барышнікава, дзяржаўныя органы цяпер абмяркоўваюць магчымасць адмяніць норму, якая дазваляе індывідуальным прадпрымальнікам да 1 ліпеня 2014 года рэалізоўваць прадукцыю лёгкай прамысловасці на аснове суправаджальных дакументаў без сертыфікатаў або дэкларацый адпаведнасці патрабаванням тэхрэгламенту Мытнага саюза "Аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці".

Згаданая норма змяшчаецца ў пункце 1.7.2 сумеснай пастановы Дзяржкамітэта па стандартызацыі, Мінгандлю, Міністэрства аховы здароўя і Мінсельгасхарчу ад 21 чэрвеня 2013 года №9/26/50/32, званай у асяроддзі прадпрымальнікаў пастановай "чатырох". Згодна з гэтым пунктам, да 1 ліпеня 2014 года ІП – плацельшчыкі адзінага падатку "ў выпадку адсутнасці ў іх дакументаў, інфармацыі альбо маркіроўкі знакамі адпаведнасці тавараў лёгкай прамысловасці і (або ) іх спажывецкай тары <...> пры ўмове наяўнасці на тавары лёгкай прамысловасці суправаджальных дакументаў, якія сведчаць аб тым, што яны набытыя ў суб'ектаў гаспадарання дзяржаў – членаў МС, павінны давесці да ведама спажыўца інфармацыю пра адсутнасць на тавар дакументаў, якія пацвярджаюць адпаведнасць патрабаванням тэхнічнага рэгламенту".

Пры гэтым прадавец абавязаны выдаць спажыўцу дакумент з указаннем наймення тавару, яго вытворцы, мадэлі, памеру, цаны; дакументальна паведаміць аб адсутнасці маркіроўкі знакам адпаведнасці патрабаванням тэхрэгламенту МС аб бяспецы прадукцыі легпрама, а таксама абавязаць абмяняць тавар або вярнуць выплачаныя грошы, калі апынецца, што тавар не адпавядае патрабаванням згаданага тэхрэгламенту.

"Гэта той пункт, які трохі спрашчае дзейнасць ІП, а не ўскладняе яго, – сказала Барышнікава. – Але выключыць гэты пункт хацелі, так як ён і выклікаў больш за ўсё нараканняў у асяроддзі індывідуальных прадпрымальнікаў, таму што яны як не жадаюць дэклараваць або сертыфікаваць тавар, так і не хочуць пацвярджаць яго паходжанне".

"Цяпер у органах, якія прынялі сумесную пастанову, ідзе абмеркаванне таго, каб выключыць гэты пункт з пастановы. Пакуль ідзе стадыя абмеркавання, рашэння няма", – дадала яна.

Адмена пункта 1.7.2 гэтай пастановы была б пазітыўным рашэннем урадавых органаў, калі б не спадарожная гэтаму моманту працэсы, заявіў у каментары БелаПАН мінскі прадпрымальнік, член РГА "Перспектыва" Вячаслаў Піліпук. Так, прадпрымальнікі чакаюць, што ўлады адкарэктуюць Падатковы кодэкс, пазбавіўшы ІП магчымасці гандляваць без суправаджальных дакументаў за выплату двайной стаўкі адзінага падатку. Тады адмена спрэчнага пункта пастановы "чатырох" страціць сэнс, паколькі дэ-юрэ прадпрымальнікі будуць абавязаныя мець дакументы на тавары, а з імі пункт 1.7.2 не страшны. З адзінай агаворкай – калі б суправаджальныя паперы можна было б атрымаць ў тых пастаўшчыкоў, з якімі працуюць ІП.

**Паводле naviny.by.**

**Што адбываецца на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства, чытайце на 4-й старонцы.**

| Курсы валют НБ РБ | 28.11 руб. | 5.12 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 9 330,00 | **9 390,00** |
| Еўра | 12 670,00 | **12 740,00** |
| Злоты | 3 018,83 | **3 036,72** |
| Літ | 3 672,72 | **3 693,58** |
| Расійскі рубель | 282,50 | **282,50** |
| Грыўня | 1 137,18 | **1 137,49** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 9330/9400 | **9380/9460** |
| Еўра | 12670/12780 | **12740/12850** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 27.11 | 4.12 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 106000 | **105300** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 44400 | **45600** |
| **Ялавічына**, (вырэзка), 1 кг | 75000 | **80000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 23500 | **24500** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23800 | **25000** |
| **Селядзец**, 1 кг | 25000 | **32500** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 87000 | **89000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 10900 | **11500** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 8500 | **8500** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 12000 | **12000** |
| **Алей** | 15600 | **14800** |
| **Маянэз**, 200 г | 5000 | **5000** |
| **Соус "Мінскі"**, 0,5 л | 7400 | **7500** |
| **Кава "Nescafe"**, 100 г | 28000 | **28000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 12000 | **8000** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 5500 | **5000** |
| **Капуста**, 1 кг | 3000 | **3500** |
| **Морква**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Буракі**, 1 кг | 4500 | **4500** |
| **Лімоны**, 1 кг | 17000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16600 | **15300** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 14000 | **16000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 10000 | **18000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 25000 | **18000** |
| **Перац**, 1 кг | 37000 | **29000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 19000 | **21000** |
| **Бананы**, 1 кг | 12500 | **12000** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 8000 | **9500** |
| **Грушы**, 1 кг | 14500 | **20000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **13000** |
| **Масла**, 1 кг | 75000 | **80000** |
| **Тварог**, 1 кг | 45000 | **40000** |
| **Бульба**, 1 кг | 5000 | **4000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 18000 | **20000** |
| **Мёд**, 0,5 л | 45000 | **50000** |

**РЫНАК**

# У гандляроў дзіцячым канфіскуюць тавар



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Каля трыццаці гандляроў абступілі трох прадстаўнікоў ЦГЭ і задавалі свае пытанні.

**МАЛАДЗЕЧНА. Раніца ў сераду, 4 снежня, для гандляроў на маладзечанскім рынку райспажыўтаварыства пачалася з чарговага сходу. Цяпер з нагоды наведвання работнікамі цэнтра гігіены і эпідэміялогіі (ЦГЭ).**

– Гэта была адна з пазапланавых тэматычных аператыўных праверак, якія ідуць ужо цягам месяца, – распавёў загадчык аддзялення камунальнай гігіены, нагляду і кантролю за гігіенічнай бяспекай тавараў аддзела гігіены Маладзечанскага занальнага ЦГЭ **Міхаіл Міхалевіч**. – Мы глядзелі, ці выконваюць на рынку санітарна-эпідэміялагічныя патрабаванні пры продажы замежных тавараў для дзяцей. Асабліва гэта тычылася адзення першага слою, якое прылягае да цела.

Дакументаў на тавар, якія б пацвярджалі якасць і бяспечнасць рэчаў, не знайшлося ў двух прадаўцоў. Ім выпішуць прадпісанні аб канфіскацыі тавару і прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці.

## Хавалі тавары і слухалі праверку

Як толькі па рынку пайшла чутка, што прыехала праверка, шэраг прадаўцоў схавалі тавар і апусцілі ралеты.

Каля трыццаці гандляроў абступілі трох прадстаўнікоў ЦГЭ і высвятлялі, якія дакументы яны павінны мець, каб гандляваць законна.

Тым часам усе прадпрымальнікі на рынку пачалі актыўна абмяркоўваць праверку. Атрымліваецца, што падатковая інспекцыя не будзе патрабаваць сертыфікаты да 1 ліпеня 2014 года. Але гандляры павінны пазначаць, што тавар несертыфікаваны. У той жа час такая шыльда – знак для ЦГЭ, праверкі якіх не адмянялі.

## Адзеў паліто і памёр?

Сітуацыю з пункту гледжання гандляроў апісала **Алена Анатольеўна**, якая гандлюе на рынку райспажыўтаварыства:

– Цяперашнія праверкі ЦГЭ не тычацца тых, хто гандлюе абуткам ці верхнім адзеннем. Мы можам працягваць працаваць. Правяраюць дакументы толькі на рэчы пэўных груп тавару.

Такія праверкі праводзілі і раней, быў перыяд "зацішша", гады тры. ЦГЭ правярае панчошна-шкарпэткавыя вырабы, бялізну, дзіцячыя цацкі і абутак, таму што яны павінны адпавядаць пэўным санітарна-гігіенічным патрабаванням. У іншых яны правяраюць толькі наяўнасць маркіроўкі. Наконт праверак верхняга адзення... Ну, ведаеце, я не памятаю, каб былі выпадкі, што хтосьці апрануў паліто і памёр. Ці трэба тут дасціпны кантроль? Пакупнік жа сам бачыць, ці падыходзіць яму рэч.

## Знімі куртку і пакажы сертыфікат!

Прадпрымальніцы **Алена** і **Людміла** патлумачылі, чаму гандляры не збіраюцца ладзіць забастоўку ад 1 студзеня ці ў іншы дзень, як раней планавалася:

– Гэта забастоўка не мае сэнсу. Перамены неабходныя не нам, а Расіі, дзе мы закупляем тавар. Мы закупляемся на аптовых рынках, дзе дакументы ёсць толькі на 2% тавараў. Ім сертыфікаты проста непатрэбныя, у межах Мытнага саюза такога кантролю, як у нас, проста няма. У Беларусі ж аптовых рынкаў з такім адзеннем няма, хаця абяцалі пабудаваць у 2005 годзе. Мы б з задавальненнем ездзілі б не ў Маскву, а ў Мінск, закупляліся б і мелі б неабходныя дакументы.

Гэтай сістэмай нас проста сутыкаюць з праверкамі, і гэта бессэнсоўна. Мы ж не супраць прадаваць з сертыфікатамі, але іх павінны рабіць ці вытворцы, ці імпарцёры, а не мы. Той, хто прадае оптам, няхай выдае нам, пакупнікам у розніцу, копіі дакументаў. Мы бяром з партыі некалькі штук, не больш за 10, і дзве з іх мусілі б аддаваць на экспертызу. Гэта проста немагчыма! Тое самае, што вам, пакупніку, сказаць: "Знімі куртку і пакажы сертыфікат ці здай на экспертызу".

Атрымліваецца, што да 1 ліпеня мы можам прадаваць прадукцыю, якую маем. А далей – паглядзім, што будзе.

**Зоя ХРУЦКАЯ, Настасся РОЎДА.**

**Прадпрымальнікі не спяшаюцца супрацоўнічаць з дзяржаўнымі аптавікамі. Чытайце на 3-й старонцы.**





**КРЫМІНАЛ**

# Абакралі "сацыяльныя работнікі"

**ВІЛЕЙКА. Здарэнне адбылося на Вілейшчыне 29 лістапада. У той жа дзень узбудзілі крымінальную справу.**

Дзве жанчыны зайшлі ў хату да бабулі і прадставіліся "сацыяльнымі работнікамі". Пачалі расказваць, што хутка адбудзецца дэнамінацыя і ці не хоча яна памяняць грошы.

Пакуль тая слухала, адна з жанчын скрала з-пад матраца гаспадыні дома тры мільёны рублёў.

– Не пускайце нікога ў дом, не праверыўшы дакументы, калі вам прадстаўляюцца сацыяльнымі ці яшчэ якімі работнікамі, – акцэнтуе ўвагу намеснік начальніка РАУС, начальнік міліцыі грамадскай бяспекі **Андрэй Дударчык**. – Такія махляры прыходзяць з адной мэтай: праверыць, ці ляжаць грошы ў шафе, пад матрацам ды ў іншых упадабаных месцах захоўвання.

**Настасся РОЎДА.**

# Скралі в'етнамскіх парасят

**ВІЛЕЙКА. Трэцяга снежня ў міліцыю звярнуцца жыхарцы вёскі Галінова.**

Хтосьці ад 28 лістапада да 2 снежня з яе незачыненага хлява скраў чатырох в'етнамскіх віслапузых парасят. Каштавалі яны 1 мільён 400 тысяч рублёў.

Адразу гаспадыня ўбачыла, што не хапае двух парасят – падумала, мо, самі збеглі. А калі ўбачыла, што зніклі яшчэ двое, то тады ўжо заявіла ў міліцыю.

Узбуджаная крымінальная справа за крадзеж, паведаміла следчы Вілейскага райаддзела Следчага камітэта РБ **Надзея Шамук**.

**Аддзел інфармацыі.**

**СЛУЖБА 101**

# Гарэў інтэрнат фабрыкі

**МАЛАДЗЕЧНА. З інтэрната швейнай фабрыкі эвакуявалі паўсотню чалавек ноччу 1 снежня. Адну жанчыну шпіталізавалі.**

Пажар адбыўся 1 снежня каля 2 гадзін ночы на першым паверсе пяціпавярховага інтэрната.

Падраздзяленне МНС эвакуявала 54 чалавекі. Усё было задымлена, але людзі сяроднага ночы выходзілі з кватэр даволі спакойна.

Пажар пачаўся ў пакоі, дзе жыла 42-гадовая работніца прадпрыемства. З апёкамі ступні яе шпіталізавалі. Як паведаміў супрацоўнік МНС **Артур Барэйка**, жанчына знаходзіцца ў хірургіі.

Папярэдняя прычына пажару – няправільнае карыстанне электрапрыборамі.

**Аддзел інфармацыі.**

**ВЫШУК**

# Шукаюць маладзечанку



**Шукаюць без вестак зніклую 56-гадовую маладзечанку Ніну Васільеўну Ельяшэвіч.**

15 лістапада яна сышла са свайго дома, і да гэтага часу яе месцазнаходжанне невядомае.

Жыла па вуліцы Месьтачковай.

**Прыкметы:** рост да 160 см, мажная, плечы гарызантальныя, твар круглы, бледны, бровы дугападобныя, сярэднія, шчацінiстыя, валасы прамыя, чорныя, кароткія, гаворка ясная, з акцэнтам.

**Асаблівыя прыкметы:** на левай руцэ не разгінаецца мезенец.

**Была апранутая:** куртка жаночая фіялетавага колеру, шэры берэт, штаны чорнага колеру, паўбоцікі жаночыя чорнага колеру.

Пры сабе мела жаночую чорную сумачку, пашпарт на сваё імя, мабільны тэлефон з абаненцкім нумарам аператара МТС **8033-3734041**, на пальцы насіла заручальны пярсцёнак.

Ніна Ельяшэвіч раней сыходзіла з дому на непрацяглы час, можа злоўжываць спіртнымі напоямі.

Просім грамадзян, якія ведаюць што-небудзь пра месца знаходжання зніклай, паведаміць у Маладзечанскі РАУС па тэлефонах: **8-0176-749683**, **8-0176-770312**, **8-0176-771656** ці **102**.

**Па інфармацыі Маладзечанскага РАУС УУС Мінаблвыканкама.**

# Што рабіць з горамі ручак у офісах




Эколагі раяць набываць замест пяці танных ручак адну дарагую.

**Штогод у Беларусі ўтвараецца больш за тры мільёны тон бытавога смецця, і з іх 88% яго застаюцца неперапрацаванымі.**

Як зменшыць колькасць пластыку вакол сябе і як зрабіць працоўнае месца крыху зелянейшым, на сустрэчы распавяла **Дар'я Чумакова** з Цэнтра экалагічных рашэнняў.

### Кожнаму па ручцы "Паркер"

Працаўнікі клавіятуры і калькулятара ў большасці сваёй маюць да таго ж безліч ручак. У офісе з 20 чалавек, якія мяняюць ручкі раз на два тыдні, іх з'яўляецца каля 240 на год замест 20-40 дарагіх. На 20 такіх фірмах за год выкідваюць ад 2000 ручак проста ў горы смецця, бачныя з дахаў на паўночным усходзе ад Мінска. А пластыку, каб раскласціся, трэба не менш за сто гадоў.

Неабавязкова набываць у офісы ручкі "Паркер", але лепш – нешта жалезнае, даражэйшае за пластык і не аднаразовае. Адно, што такую ручку цяжкавата грызці.

– У старажытным Рыме рабілі мячы з золата, каб іх не згубілі. Тое ж самае і з ручкамі: супрацоўнік будзе турбавацца пра яе, бо гэта ягоная, дарагая і любімая. Да таго ж у дарагіх ручках прадугледжаная магчымасць замены стрыжня, – кажа Дар'я Чумакова з Цэнтра экалагічных рашэнняў.

### Электронная макулатура

Цяжкія папкі з дакументамі, якія трэба часам здаваць у макулатуру ці выкідваць, бясконца шукаць у іх патрэбны аркуш і складаць спісы дакументаў, можна прыбраць з жыцця офіса. Ці зрэшты зменшыць іх аб'ём на працэнтаў 10-15.

На скарыстаных паперах можна друкаваць з двух бакоў, апроч тых, на якіх звесткі адносяцца да камерцыйнай таямніцы альбо, напрыклад, пашпартныя дадзеныя. Каб горы макулатуры ў офісе зрабіліся яшчэ меншымі, можна паспрабаваць электронны дакументазварот – тэхналогія не зусім абкатаная ў Беларусі, але ўжо рэальная.

### Ад 15 да 30% святла затрымліваюць брудныя вокны

Калі ад працы ў офісе стамляюцца вочы – час звярнуць увагу на асвятленне. 15-30% святла затрымліваюць брудныя вокны. Працоўны стол ля акна дазваляе карыстацца не штучным, а натуральным святлом, якое падымае настрой і павялічвае заробак на маленькую шакаладку за кошт эканоміі электраэнергіі. Магчымасць глядзець у акно на працы станоўча адбіваецца на зроку. Найгоршы варыянт – калі позірк упіраецца ў сцяну.

Чытаць эколагі раяць пры звычайнай лямпе напальвання альбо святлодыёднай. Увогуле з усіх відаў лямпаў святлодыёдныя працуюць найдаўжэй і з'яўлюцца найбольш бяспечнымі. Тэрмін службы – больш за 50 000 гадзін, а гэта не адзін год.

10-15% ад агульнага спажывання электрычнасці бярэ тэхніка ў рэжыме чакання, нявыключанае святло. Калі ваш офіс спажывае 350 кілават, то лічба можа зменшыцца да 300-315.

Не сварыцца на ЖХК, а пашукаць тэрмарэгулятары на батарэях трэба, калі ў офісе халодна, і таксама прыбраць усё, што закрывае батарэі. Можна пафарбаваць іх у цямнейшы колер – гэта дасць +5% цяпла.

### 40% смецця – упакоўка

Пакеты і пакецікі ад печыва і гарбаты, шклянкі ад кавы запаланілі вашы сметніцы? Значыць, трэба сачыць, каб тое, што вы набываеце, мела як мага менш упакоўкі. Каля 40% смецця на сметніках – менавіта ўпакоўка.

Зрабіце падарункі супрацоўнікам да Новага года – торбачкі з тканіны. З торбачкамі можна хадзіць у магазіны і набываць прадукты ці ўсё для офіса і нават добра дарыць і атрымліваць падарункі.

Замест таннай гарбаты ў пакецiках набывайце даражэйшую і без вяровачак-цэтлікаў. А яшчэ лепш – непакетаваную, у ёй упакоўкі – толькі скрынка, і хіміі менш. Ад таннай гарбаты ў пакецiках, здараецца, крыху пяршыць у горле з-за спецыяльных рэчываў, якія дадаюцца, каб не размакала папера.

Калі набываць цукеркі, то лепш шакаладныя беларускія "Кара-кум", а не карамелькі. У "Каракума" найбольш карысныя і натуральныя складнікі, а апельсінавая карамель – усяго толькі цукар са смакам і водарам апельсіна.

### Гарманічна-штучнае святло прэзентацыі

Кожны чалавек, кожнае прадпрыемства ці офіс абавязаныя нешта зрабіць і ў экалагічным накірунку, і ў эканамічным. І ў гэтым нічога складанага няма.

Кожны павінны рабіць тое, што можа, але часам і ад агульнага кантэксту нікуды не збяжыш: у памяшканні, дзе адбывалася нейкая падзея, было вельмі мала вокнаў і шмат гарманічнага і прыемнага для вока, але штучнага святла.

**Ганна ВАЛЫНЕЦ, generation.by.**

---

■ **БРАКАНЬЕРСТВА**

# Больш за 1,5 тысячы выпадкаў браканьерства

**Як выглядае тыповы браканьер і колькі каштуе яго злачынства.**

**У 2004 годзе здарыўся трагічны выпадак, калі браканьер застрэліў супрацоўніка інспекцыі падчас затрымання.**

У Мінскай абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету яшчэ 10 міжраённых. За апошнія 10 месяцаў яны знайшлі больш за 1,5 тысячы парушэнняў.

Палова з іх – у правілах рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. Яшчэ чвэрць – парушэнні правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання. І яшчэ чвэрць – парушэнні правілаў лесакарыстання.

– Адзін з апошніх выпадкаў здарыўся на Мядзельшчыне на рацэ Нарачанка, – кажа начальнік інспекцыі **Валеры Верамейчык**. – Затрымалі мясцовага жыхара, які вылавіў сеткай 172 плоткі. Шкода навакольнаму асяроддзю – больш за 10 мільёнаў рублёў. Узбудзілі крымінальную справу.

### Які штраф пагражае злачынцу

Штраф залежыць ад нанесенай навакольнаму асяроддзю шкоды. Гэта можа быць і пазбаўленне волі на тэрмін да шасці гадоў.

Найвялікшае пакаранне прадугледжанае за незаконную здабычу рыбы ў асабліва буйным памеры са спецыяльнымі прыстасаваннямі. Іх праца заснаваная на выкарыстанні электрамагнітнага поля, ультрагуку альбо выбуху.

– Нам даводзіцца сутыкацца з выпадкамі, калі людзі неадназрова шкодзяць прыродзе, – адзначае Валеры Верамейчык. – Часам парушаюць закон і службовыя асобы, якія працуюць на спецыялізаваных прадпрыемствах.

### Як выглядаюць браканьеры

– Пераважна гэта людзі, якія, як кажуць, з раскошы шалеюць, – распавядае Валеры Верамейчык. – Часта яны ў салідным узросце і маюць добрую працу. Нядаўна затрымалі браканьера. На яго незарэгістраванай стрэльбе быў прыбор начнога бачання за 3,5 тысячы долараў. Прыехаў на джыпе. Няўжо яму мяса не хапае? Можна цалкам законна паляваць. Сёння кошт на здабычу буйнога дзіка-секача – 400 тысяч рублёў.

Неаднойчы я ўпэўніваўся, што людзі, якія жывуць побач з ракой, ловяць рыбу законнымі метадамі. Яны паважаюць і берагуць прыроду. Тым часам як браканьеры – кіламетровымі сеткамі.

### Спакуса ссекчы ялінку сышла ў гісторыю

Да Новага года застаўся менш за месяц. Ялінкі цяпер – самы хадавы тавар. Валеры Верамейчык кажа, што такое браканьерства было папулярнае раней, калі тую ж елку не заўсёды можна было проста набыць.

Сёння гэта ўжо сышло ў гісторыю. Асабліва цяпер, калі шмат людзей набываюць штучныя ялінкі.

**Андрэй АСМАЛОЎСКІ.**

---

■ **АСВЕТА**

# Экалогіяй заклапочаныя бібліятэкары

**ВАЛОЖЫН. У Пяршайскай сельскай бібліятэцы прайшоў тэматычны семінар бібліятэкараў Валожынскага раёна.**

Ён быў прысвечаны году экалагічнай культуры і абмену досведам працы бібліятэк раёна ў экалагічным накірунку.

Чаму раптам экалогія і бібліятэкі? Яны маюць магчымасць назапашваць і распаўсюджваць інфармацыю аб прырадаахоўнай дзейнасці, могуць стаць своеасаблівым цэнтрам экалагічнага выхавання і інфармацыі насельніцтва.

Як выхаваць любоў да свайго краю, як выхаваць экалагічную культуру ў дзяцей і падлеткаў, як зрабіць так, каб іх адносіны да прыроды былі беражлівымі? Такія пытанні абмяркоўвалі супрацоўнікі бібліятэк.

Яны ўпэўненыя, што экалагічная асвета вельмі неабходная сёння, калі чалавек далёка зайшоў у сваім прыродакарыстанні, яна павінна быць жывой, змястоўнай і пастаяннай.

**Аддзел інфармацыі.**

ЗАХАПЛЕННІ

# Шчасце можна вышыць

**ВІЛЕЙКА. Няхай майстар ЛарысаІлькевіч (дзявочае прозвішча Каламіец) не вельмі верыць у прымхі, але менавіта любімая справа дадала яе жыццю фарбаў.**



ЛарысаІлькевіч з вёскі Людвінова Вілейскага раёна сярод сваіх вышыванак.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Ларыса жыве ў вёсцы Людвінова Вілейскага раёна, а нарадзілася ў Маладзечне. Яна вучыць мясцовых дзяцей іграць на баяне, акардэоне і фартэпіяна, некаторыя яе вучні паступаюць у маладзечанскі музкаледж. Чым яна толькі не захаплялецца! Шыла з футра шапкі і нават футры, вышывае, вяжа, шые, фатаграфуе. А што толькі не гатуе!

Многае ў светаўспрыманні жанчыны змянілася пасля цяжкай хваробы, якая напаткала яе дзесяць гадоў таму. Выздараавеўшы, убачыла абраз і вышыла яго. Пасля гэтага ўсё і закруцілася. Яна зразумела, што шмат чаго не паспела зрабіць. За шэсць год Ларыса вышыла за сто работ. Самая складаная з іх заняла крыху больш за два месяцы.

Работы Ларысы вельмі розныя па тэматыцы: абразы, нацюрморты, пейзажы, партрэты, казачныя выявы. Насупраць увахода ў кватэру вісяць два партрэты Уладзіміра Высоцкага, зробленыя з бісеру.

**Рукадзелле стала яе жыццём, і яно займае цяпер нават больш часу, чым дзеці на працы.**

– Спачатку зрабіла "на слабо". Прыехаў адзін камерсант з Мінска і кажа, што бачыў вышытыя з бісеру партрэты артыстаў і пытаецца, ці слабо мне зрабіць партрэт Высоцкага. Не, не слабо, зрабіла. Ён потым кажа, што можна яшчэ з іншай карцінкі зрабіць выяву. Зрабіла яшчэ адну за месяц. Але пакуль што ён іх не забраў.

Многія работы не проста вышытыя крыжыкам, але і стужкамі, а таксама аздобленыя бісерам. Адна з самых складаных работ – вышыты ніткамі конь. Ларыса нават хацела кінуць яе, але жанчыны на форуме ўгаварылі закончыць працу.

**– Як у вас часу хапае, каб столькі вышыць?**

– Быў перыяд, калі вышыўка была маім асноўным заняткам. Я магла па дзесяць гадзін на дзень вышываць. Ці садзілася а восьмай вечара і да двух ночы вышывала.

**– Адкуль столькі энергіі, каб займацца рукадзеллем?**

– А чым тады займацца тут, у вёсцы? Сядзець і тэлевізар глядзець?

Ларыса заўсёды з ахвотай бярэцца за новае. Нядаўна ёй прапанавалі паўдзельнічаць у выставе панчошных лялек – яна зрабіла і іх.

– Але ўсе такіх робяць, а мне хочацца зрабіць так, каб з іх адразу вымалёўваўся сюжэт. Думаю, з якога матэрыялу зрабіць. Магчыма, з гіпсу. Нават з туалетнай паперы і клею падобныя робяць.

Работ за шэсць год вышывання сабралася больш за сто. Многія з іх неаформленыя ў рамкі – не хапае ні часу, ні грошай. Таму вырашыла займацца больш практычнымі рэчамі: рабіць абрусы і беларускія вышыванкі.

– Як першы абраз рабіла, мама кажа, што яна лепш бы вышыла. А цяпер ужо гаворыць, што так, як я, ніколі б не вышыла.

**Ларыса па мерках вышывальшчыц вышывае вельмі хутка, некаторыя нават думаюць, што яна мае дома спецыяльную машынку і працуе на ёй.**

Уласныя выставы Ларысы ладзіліся ў Вілейцы ў бібліятэцы і музеі, тры выставы былі ў Людвінове. Яна хацела б наладзіць выставу і ў Маладзечне, у сваім родным горадзе.

### Аб'ядноўвае ўмельцаў з розных краін

Ларыса зрабіла ўласны сайт "Куфэрак рукадзелля", які таксама займае час. Сайт створаны для жанчын з Беларусі, Украіны, Расіі – усіх, каму цікава творчасць і рукадзелле. Яны і шыюць, і вяжуць, і вышываюць.

На сайце ў яе спачатку пыталіся, для чаго яна ўсё ўсім робіць, усім займаецца, а потым зразумелі, што яна ўсё робіць хутка і пры гэтым якасна. Яна тлумачыць, як, напрыклад, вяжа, дае майстар-класы.

– Учора па скайпе наладзілі канферэнцыю: жанчыны з Ангарска, Уладзіміра, Луганска і іншых гарадоў абмяркоўвалі, што цікавага зрабіць на сайце ў наступным годзе, якія гульні і конкурсы правесці. Вось цяпер да Новага года мы задумалі гульню: абменьваемся падарункамі, якія робім самі. Ніхто не ведае, хто што рыхтуе. Мой падарунак паедзе ў Смаргонь.

### Музычная сям'я

Ларыса нарадзілася ў Маладзечне, дзе засталіся яе сваякі. Бацька прыехаў у горад з Украіны, працаваў у вагонным дэпо. Ён любіў іграць у вольны час, падхапілі захапленне і дзеці: сын атрымаў вышэйшую адукацыю і выкладае ў музкаледжы імя Агінскага ў Маладзечне. А дачка закончыла цяперашнюю гімназію №7, потым вучылася ў музкаледжы.

Па размеркаванні Ларыса трапіла ў Любанскую музычную школу. Працавала ў філіяле ў Нарочы, там Ларысу заўважылі на канцэрце і запрасілі ў клуб у Людвінова, дзе некалькі год яна працавала загадчыцай, а пасля перавялася ў Даўгінава.

У Нарочы Ларыса знайшла каханага і выйшла замуж. А ў Людвінове маладой сям'і далі кватэру, і вось ад 1985 года яны тут.

Выгадавалі з мужам двух сыноў, Максіма і Мікіту, якія сталі будаўнікамі. Ужо ёсць адзін унучак, Ягорка, якому пяць год. Дзеці часта прыязджаюць на выхадныя. Кожны займаецца сваім. Дзеці на рыбалцы, Ларыса вышывае ці вяжа.

Раней Ларыса трымала і гаспадарку: кароў, свіней, гусей, качак. Цяпер гадуе курэй і трусоў. Каля дома ў жанчыны агарод, а ў Марośках лецішча, якое даглядае з 81-гадовай мамай.

### Мама была сакратаром у Прытыцкага

Калі дзеці былі маленькія, распарадак дня ў Ларысы быў такі, што не пазайздросціш. А шостай раніцы яна падымала старэйшага сына, Максіма. Апоўдні клала яго спаць, зачыняла і ішла на працу ў школу, дзе вяла спевы. У абед прыходзіў муж. Калі ён ішоў на працу, вярталася Ларыса. Калі муж прыходзіў з работы, жанчына ішла на работу ў клуб.

Калі нарадзіўся Мікіта, Ларыса ездзіла за 15 кіламетраў у Даўгінава падпрацоўваць. Раніцай мы везлі Мікіту ў Маладзечна бацькам. У абед муж адвозіў мяне ў Даўгінава, а сам на працу. Вечарам ён забіраў мяне з Даўгінава, і мы ехалі ў Маладзечна за Мікітам і вярталіся дадому.

Ларыса вельмі любіць гатаваць: знаёмыя кажуць, што яна можа прынесці такі торт, што хоць у секцыю стаў, нават шкада есці. Яе бабуля працавала шэф-поварам у адным з рэстаранаў Маладзечна.

Калі існавала Маладзечанская вобласць, мама Ларысы працавала сакратаром у першага сакратара абкама партыі **Сяргея Прытыцкага**. Калі мама выходзіла замуж за тату, той даў ім дзяржаўную машыну, на якой яны ехалі брацць шлюб.

### Магія ў руках жанчын

У вышывальшчыц ёсць свае прымхі, некаторыя з іх нават лічаць, што сваё шчасце можна вышыць. Ларыса, праўда, не фанатычна ставіцца да такіх забабонаў, але знаёмыя майстрыхі пераконваюць, што ў іх задуманае абавязкова спраўджваецца.

Напрыклад, выява карпаў – да грошай, вышыеш домік – атрымаеш кватэру ці дом. Калі хочуць дзяцей – карыстаюцца адмысловай схемай, на якой тры анёльчыкі. Калі жанчына хоча, каб муж стаў больш гаспадарлівым, пачаў забіваць цвікі, то вышываюць карціну, на якой на дрэве кот ляжыць. Адна з жанчын падзялілася, што яшчэ пакуль вышывала ката, муж прыйшоў і развесіў усе карціны.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

Больш фота на сайце




МАСТАЦТВА

## Дзве карціны Анатоля Бяляўскага застануцца ў музеі

**ВІЛЕЙКА. У выставачнай зале імя Сілівановіча краязнаўчага музея праходзіць выстава мастака Анатоля Бяляўскага. Ён жыве і працуе ў Мінску, але і для нашага рэгіёна не чужы. Нарадзіўся і рос на Смаргоншчыне, часта бываў у дзядулі і бабулі на Мядзельшчыне.**

На выставе можна пабачыць каля 20 карцін: пейзажы, партрэты, нацюрморты, выявы мясцін, звязаных з падзеямі вайны 1812 года.

– Мастак не ўпершыню супрацоўнічае з музеем, – расказала старшы навуковы супрацоўнік **Вольга Коласава**. – Летась яго працы ўдзельнічалі ў выставе, прымеркаванай да 200-годдзя вайны 1812 года.

Будзе працаваць выстава да сярэдзіны снежня. А ў памяць пра гэту выставу ў музеі застануцца дзве карціны творцы: Анатоль Бяляўскі падарыў установе працы з серыі "Жаночы партрэт".

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ВЫСТАВЫ

## Украінскі роспіс у Мядзельскім музеі

**МЯДЗЕЛ. У музеі народнай славы праходзіць выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва "Петрыкоўка – жамчужына Украіны".**

На выставе прадстаўлена больш за 60 прац: размаляваныя талеркі, куфар, жывапісныя працы на паперы і дрэве. Зроблены яны ў традыцыях петрыкаўскага роспісу.

Назва роспісу пайшла ад назвы сяла Петрыкоўка, жыхары якога з канца 18 стагоддзя ўпрыгожвалі ім фасады дамоў, печаў, а пазней посуд, брычкі, абрусы і ручнікі, куфры.

Доўжыцца выстава будзе да канца снежня. Арганізавана яна пры падтрымцы Пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь і Днепрапятроўскай абласной дзяржаўнай адміністрацыі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Экспанат выставы – куфар.

КУЛЬТУРА

## У Вілейцы прыгадаюць пра Уладзіслава СтрАмінскага

**ВІЛЕЙКА. Пройдзе вечарына памяці, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння мастака Уладзіслава Стрэмінскага.**

Адбудзецца яна ў выставачнай зале імя Сілівановіча краязнаўчага музея 14 снежня, паведаміла старшы навуковы супрацоўнік **Вольга Коласава**.

Уладзіслаў Стрэмінскі – знакаміты беларуска-польскі мастак-авангардыст. Частка яго творчага жыцця звязана з Вілейкай, дзе ён выкладаў у гімназіі, быў галоўным мастаком-афарміцелем горада.

Удзельнікам вечарыны раскажуць пра жыццё і творчасць мастака, пакажуць відэафільм. Яны змогуць паўдзельнічаць у перфомансе.

Пачатак запланаваны на 15 гадзін.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Папраўка

У артыкуле "Жыццёвы шлях майго дзеда – Васіля Казлоўскага" у №46 ад 15 лістапада рэдакцыяй дапушчаная недакладнасць. Васіль Казлоўскі жыў у вёсцы Лебедзева, а не ў Марośках. Просім прабачэння ў сваякоў і чытачоў.

# Чарэмшыцы: вёска ля Нарачанкі


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Сустрэча на вясковай вуліцы.

**МЯДЗЕЛ. Вёска Чарэмшыцы на Мядзельшчыне размясцілася крыху воддаль ад дарогі Купа – Занарач – Брусы, у кіламетрах пяці ад Занарачы.**

Першае, што кідаецца ў вочы пры знаёмстве з вёскай, то гэта адна вуліца – праўда, доўгая.

– Жылі раней людзі небагата. Малыя надзелы зямлі мелі, таму і хаты гусценька стаяць адна ля адной, – прыгадвае мясцовы старажыл, ветэран вайны **Уладзімір Талайка.** – У трыццатых гадах у вёсцы двароў каля 90 было, шмат дзяцей. Школа працавала, чатыры класы, адзін настаўнік быў. Вучыліся ў хаце звычайнай – нанятай. Строга было: калі хто не хадзіў у школу, то бацькоў выклікалі ў гміну ў Кабыльнік, штрафавалі.

## З гісторыі Чарэмшыцаў

У 1846 годзе – вёска маёнтка Вузла Вілейскага павета Віленскай губерні. Уладанне графа Канстанціна Тызенгаўза, 29 двароў, 264 жыхары. З 1892 года працавала школа граматы.

У 1904 годзе – вёска Занарачанскай воласці Свянцянскага павета, 442 жыхары.

З 12.10.1940 – у Занарачанскім сельсавеце Мядзельскага раёна. У 1940 годзе было 79 двароў, 385 жыхароў.

У 1949 годзе ў вёсцы створаны калгас імя Мічурына. У 1960 годзе – 318 жыхароў.

**Паводле гісторыка-дакументальнай хронікі “Памяць”.**

### У эпіцэнтры ваенных падзей

Незайздросны лёс выпаў на Чарэмшыцы ў мінулым стагоддзі: вёсцы давялося абедзве сусветныя вайны быць у цэнтры крывавых падзей. Недарэмна ў рамане-хроніцы аб Першай сусветнай Ягора Іванова “Разам з Расіяй” у назвах некалькіх раздзелаў побач з Пецярбургам, Берлінам, Лонданам пазначана “Вёска Чарэмшыцы”.

Напярэдадні Нарачанскай аперацыі 1916 года ў вёсцы дыслакаваўся штаб 7-й пяхотнай дывізіі 2-й рускай арміі, а падчас аперацыі – корпусны рэзерв 5-га армейскага корпуса. Як памяць пра гэтыя падзеі на вясковых могілках ёсць пахаванне рускіх салдат. А за пяць кіламетраў ад вёскі на месцы былога хутара Гушчар пахавана 400 салдат рускай арміі, якія загінулі ў сакавіку 1916 года.

У Вялікую Айчынную вайну за лічаныя кіламетры ад вёскі ў лесе знаходзіўся штаб партызанскай брыгады імя Варашылава. Пры штабе дыслакаваліся Вілейскія падпольныя абкамы КП(б)Б і ЛКСМБ (гэта месца цяпер вядомае як комплекс “Партызанскія базы”).

Вядома, увага фашыстаў да партызанскай зоны была адпаведная. Неаднойчы немцы ішлі сюды з баямі, і нават бамбілі наваколле, у тым ліку і Чарэмшыцы. Так, у адзін з лютаўскіх дзён 1943 года наляцелі 12 варожых самалётаў. Неўзабаве бамбёжка паўтарылася.

Шмат людзей загінула ў вайну ў Чарэмшыцах, ды і вёска разбураная была: пасля вызвалення Беларусі не давялося адбудоўваць наноў.

– Ад дамоў толькі адны падмуркі засталіся і коміны, – прыгадвае Уладзімір Талайка. – Адбудоўвалі хаты так, як было пры Польшчы: на тых самых месцах.

А пакуль пабудаваліся, жылі людзі ў зямлянках. Узгадваюць, што і вяселлі ў іх гулялі.

### Калгаснае мінулае

– Я сама з хутароў, тры кіламетры адсюль. У 1952 годзе ў Чарэмшыцы жыць прыйшла, – гэта расказвае **Галіна Каўрус**. Яна, дарэчы, хлеб сама пячэ (але пра гэта – іншым разам).

**– Як за гэты час вёска змянялася?**

– Раней і клуб, і школа тут былі. Я ў паляводстве працавала, 60 жанчын выходзіла працаздольных. Саджалі, жалі, капалі – усё ўручную. Вельмі цяжка было. Рвеш-рвеш лён – прыйдзеш дадому, гліны накладзеш на рукі, каб лягчэй заснуць – бо мярцвелі.

**– Якія самыя лепшыя гады з калгасных былі?**

– У 70-80-х гадах ужо можна мірыцца было. Ужо камбайны пайшлі, саджалкі, лён машына рвала, а мы толькі падымалі і мялі – палягчэнне было.

### ... і дачная будучыня

Калі пазнаёмішся з гістарычнымі звесткамі, то ўбачыш: у мінулым стагоддзі бывалі гады, што ў вёсцы больш за 400 чалавек жыло. А цяпер як прыняліся лічыць, то толькі каля 30 мясцовых жыхароў тут, ды амаль усе пенсіянеры. Калі ж улічыць, што некаторыя на зіму да дзяцей едуць, то з восені ў Чарэмшыцах становіцца зусім сумна. На сваім прыкладзе адчуў: толькі пачаў гаварыць з дзвюма бабулямі – адразу яшчэ дзве падышлі з пытаннем: “А хто вы будзеце?” Цікава ж: новы чалавек у вёсцы.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На ўездзе ў Чарэмшыцы можна пабачыць дзіцячую пляцоўку. Зрабіў яе адзін з ураджэнцаў вёскі.

Затое дачнікаў тут шмат: прыгожыя дамы адбудоўваюць. Што іх прыцягвае сюды? Возера Нарач хай крыху воддаль, затое блізенька лес і рака Нарачанка. Ды і траса побач. Вось як заваблiваюць патэнцыяльных пакупнікоў леціпча ў Чарэмшыцах на адным з сайтаў аб’яў: “Пяць кіламетраў ад возера Нарач. Вакол грыбны лес, рэчка Нарачанка 150 метраў ад дома (можна купацца і рыбу лавіць)”.

Так што, летам вёска ажывае.

– Цешымся мы, што і з дзеткамі папрыязджаюць, – кажа **Галіна Каўрус.** – Выйдзеш на вуліцу – убачыш чалавека. А ўжо як выехалі, то цішыня: толькі ў выхадныя дзеці да каго прылятуць. Раней было ў Чарэмшыцах людзей. А хто ўжо цяпер застаўся: падбор…

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# У год сіняга Каня – з блакітнай ёлкай

**РЭГІЁН. Набліжаюцца навагоднія святы. А якое свята без традыцыйнага ўпрыгожання – навагодняй ёлкі?**

Усе лесагаспадаркі нашага рэгіёна ўжо падрыхтаваліся да гэтага свята. Мы патэлефанавалі ў кожную, каб запытацца: колькі навагодніх дрэўцаў плануецца падрыхтаваць для рэалізацыі і колькі яны будуць каштаваць?

### Танныя ёлкі – у Валожыне, а блакітныя – у Смаргоні

У **Астраўцы** нам адказалі, што ёлкі будуць каштаваць ад 0,5 да 1 метра – 45 000, ад 1 да 2 метраў – 50 000, ад 2 да 3 метраў – 63 000. Усяго плануецца рэалізаваць каля 1 500 навагодніх дрэўцаў.

У **Вілейцы** з колькасцю дрэў пакуль не вызначыліся, а кошты на іх будуць такія: ад 0,5 да 1 метра – 40 000, ад 1 да 2 метраў – 55 000, ад 2 да 3 метраў – 70 000.

У **Валожыне** можна будзе набыць самыя танныя навагоднія дрэвы. Елкі ад 0,5 да 1 метра будуць каштаваць 33 000, ад 1 да 2 метраў – 45 000, ад 2 да 3 метраў – 55 000.

А вядучы эканаміст Смаргонскага лягсаса, які ахоплівае і Ашмянскі раён, **Вольга Пахомава** паведаміла, што акрамя традыцыйных навагодніх дрэў (сасны і ёлкі) можна будзе набыць і экзатычныя блакітныя. Кошты на звычайныя навагоднія дрэвы будуць наступныя: ад 0,5 да 1 метра – 45 000, ад 1 да 2 метраў – 55 000, ад 2 да 3 метраў – 65 000.

Кошты на блакітныя ёлкі будуць вышэйшыя, але гэта таго варта. Блакітныя больш пушыстыя і эфектныя. Каштаваць яны будуць 120, 210 і 270 тысяч адпаведна памеру. Адзінае, што набыць такую экзатычную прыгажуню можна будзе толькі на тэрыторыі гадавальніка. Усяго на тэрыторыі **Ашмянскага** і **Смаргонскага** лягсаса плануецца рэалізаваць каля 8 000 дрэў.

У **Маладзечне**, як распавёў галоўны інжынер лягсаса **Юры Сямко,** кошты на ёлкі будуць наступныя: ад 0,5 да 1 метра – 45 000, ад 1 да 2 метраў – 60 000, ад 2 да 3 метраў – 70 000.

На ёлачныя базары ў Маладзечне запланавана завезці каля 6 000 дрэў, але, як паказвае практыка, набываецца каля 5 000 дрэў.

У адным пытанні рэгіёны падобныя: ёлачныя базары пачнуць працаваць у адзін дзень: 20 снежня.

**Наталля ТУР.**

## Ёлка для офіса – прасцей простага!

Кошты на ёлкі вам ужо вядомыя. Але калі гэта для вас занадта дорага, а штучную ёлку ставіць не хочацца, а можа, проста вы хочаце стварыць сабе добры настрой не толькі дома, але і на працоўным месцы – гэты артыкул для вас.

Ёлку сваімі рукамі можа зрабіць кожны. З чаго будзе ваша дзіва-дрэўца, вырашаць толькі вам. Яно можа быць з мандарынаў, пер'я, нітак, тканіны, шышак, макаронаў, цукерак… нават з гумовых пальчатак! Калі ж у вашым офісе нічога, акрамя старых часопісаў няма, то гэта, спяшаемся вас парадаваць, таксама цудоўны матэрыял для навагодняй ёлкі.

Пачнём?

Для работы вам спатрэбяцца:
- стары часопіс,
- стэплер,
- нажніцы,
- скотч.

**Фота liveinternet.ru, stranamasterov.ru**


Фота 1.


Фота 2.

Бяром ліст за правы верхні ражок і загінаем яго ў цэнтр, потым яшчэ раз згінаем ліст такім жа чынам. У выніку ў нас атрымаецца трохкутнік, кончык якога будзе выступаць за межы часопіса, але нам гэта не падыходзіць, неабходна захіліць яго ўнутр і замацаваць скотчам. Фота 1.

Робім гэту працэдуру з кожным лістом. Не варта моцна прыціскаць лісты, у сярэдзіне трохкутніка павінна быць прастора для стварэння больш аб'ёмнай канструкцыі. Фота 2.

Калі ўсе старонкі сабраныя, трэба злучыць першы і апошні ліст паміж сабой з дапамогай стэплера. І, дзіва, ёлка гатовая!

Фота 3, 4

На свой густ ёлачку можна пафарбаваць, упрыгожыць гузікамі, каралямі, зернем кавы ці чым вы пажадаеце. А можна з часопісаў розных памераў стварыць цэлы лес ёлачак. Навагодні настрой гарантаваны!


Фота 3.


Фота 4.

■ ВЕДАЙ НАШЫХ!

# Газета "Маладзік" – лепшая ў Беларусі

**МАЛАДЗЕЧНА. Вынікі рэспубліканскага конкурсу "Ты ў эфіры!" падвялі ў Мінску 27 лістапада.**

Конкурс дзіцячых і моладзевых ініцыятыў даваў шырокія магчымасці для творчасці. З шасці прапанаваных намінацый юныя журналісты з "Маладзіка" прынялі актыўны ўдзел у чатырох. Мы падрыхтавалі інтэрв'ю з цікавымі людзьмі, зрабілі фотаздымкі нашага горада, знялі відэафільм пра дзейнасць маладзечанскага моладзевага парламента.

Аднак найбольш пасляховай для нас стала намінацыя "Жывая старонка": газету "Маладзік" адзначылі дыпломам першай ступені.

– Работы ўдзельнікаў ацэньвалі дасведчаныя журналісты, і для нас вельмі значна атрымаць ад іх прыемныя водгукі. Як адзначыла журы, наша газета была па-за канкурэнцыі, – дзяліцца ўражаннямі **Ксенія Рагель**.

**Аліна Літвіненка** ўзнагароджаная спецыльным прызам газеты "Переходный возраст" за эсэ "Шпацыр з філасофскім настроем". Калі іншыя ўдзельнікі пісалі пра самыя знакамітыя славутасці свайго горада, то Аліна надала ўвагу малавядомым, але блізкім ёй куточкам.

Конкурс "Ты ў эфіры!" быў прысвечаны ініцыятыве ЮНІСЕФ "Горад, дружалюбны да дзяцей", якая арганізаваная з мэтай развіцця дзіцячага самакіравання, валанцёрскага руху і рэалізацыі сацыяльных праектаў для дзяцей і моладзі. За чатыры гады да гэтай ідэі далучыліся 22 гарады нашай краіны, у тым ліку і Маладзечна.

Лідэры, члены дзіцячых парламентаў, і юныя журналісты з усіх гэтых гарадоў з'ехаліся ў Нацыянальны цэнтр мастацкай творчасці дзяцей і моладзі на рэспубліканскі семінар. Найбольш актыўным удзельнікам ініцыятывы і конкурсу, сярод якіх быў і "Маладзік", далі слова для прэзентацыі досведу работы. А самай карысная і запамінальнай падзеяй для нас сталі майстар-класы вядомых журналістаў друкаваных СМІ і радыё.

**Юлія СТРЫГА, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

# *Уладзімір Пятроў:* Здзекавацца з коней не дазволю!

**МАЛАДЗЕЧНА. Племянная каняферма існуе ў Палачанах амаль 20 гадоў. І ўсе гэтыя гады нязменным загадчыкам тут з'яўляецца Уладзімір Пятроў.**

Гэта ён, пераехаўшы з Ільі, прывёз з сабой дзевяць спартыўных коней, тым самым даў пачатак коннаму спорту ў Палачанах. Сёння ў Палачанах свая гасцініца, загоны, крыты манеж, дзіцячая спартыўная школа, стадыён для правядзення спаборніцтваў. Ды і размаўляем мы з Уладзімірам Мікалаевічам у манежы, а побач працуюць коні і іх наезнікі.



На жарабцы гановерскай пароды Графе – спартсменка-конніца Вольга Магуленка.

Фота Наталлі ТУР.

### На 80 коней – чатыры работнікі

– Сёння ў Палачанах займаюцца толькі канкурам, хаця раней была і выездка, і трохбор'е. І вынікі добрыя былі. Але трэнеры пасыходзілі, і вось цяпер маем тое, што маем. Штодзень двое нашых коннікаў **Вольга Юха і Сяргей Казлоў** працуюць з чатырма конямі. Кожнага трэба асядлаць, папрацаваць з ім, а гэта гадзіна-паўтары, потым рассядлаць, пачысціць. Канешне, для гэтага павінны быць конюхі, але ў нас іх няма.

**– А колькі чалавек працуе з конямі не на манежы? Корміць іх, даглядае?**

– Працуюць чатыры чалавека на 80 коней. А іх трэба тройчы ў дзень пакарміць, даць вады.

**– 80 коней. Гэта ўсе спартыўныя?**

– 76 спартыўных коней. У гэты лік уваходзяць і кабылы, і жарабцы, і жарабяты, і лягчаныя. Ёсць чатыры працоўныя конікі. Рэдкіх парод у нас няма, але яны нам і непатрэбныя. На нашай каняферме амаль усе коні нямецкіх парод: гановерская, галшцінская, тракенінская, брандэнбургская, альдэнбургская. Усе яны выведзеныя ў Германіі, і сваю назву парод атрымалі ад назвы мясцовасці, дзе былі выведзеныя.

### Коні, як і людзі, ёсць працавітыя, а ёсць і ўпартыя гультаі

Уладзімір Мікалаевіч запрашае мяне на экскурсію па каняферме. Пачынаецца маршрут са стойлаў, у якіх стаяць жывёлы. На кожным стойле прымацаваная шыльда, на якой указаная мянушка каня, мянушка маці і бацькі гэтага каня, узрост і парода. Ніводнае стойла не пустуе. Тут усё, як у інтэрнаце. Асобы "рознага полу" стаяць асобна, "дзеці" – асобна.

**– У коней такія незвычайныя мянушкі: Алабастр, Дон Грэгары, Гранд, Ліверпуль, Булава, Граф, Камбоджа... Хто іх прыдумвае?**

– Мы іх называем. Мянушка каня павінна пачынацца з пачатковай літары мянушкі бацькі, а ў сярэдзіне мянушкі павінна быць пачатковая літара мянушкі маці. Часам, такія мянушкі атрымоўваюцца!

**– А коні адгукаюцца на іх? Ведаюць, як іх завуць?**

– Хутчэй за ўсё, яны адгукаюцца на знаёмую інтанацыю. А вось людзей яны, сапраўды, пазнаюць. У маёй уласнай гаспадарцы таксама ёсць коні. І калі я раніцай толькі выходжу моўчкі на ганак, адразу ж з хлява чую: "Гы-гы-гы!" А калі гаварыць шчыра, то яны вельмі падобныя да людзей. Ёсць і спакойныя, рахманыя, а ёсць і шкадлівыя, наравістыя. І настрой у іх таксама бывае і кепскі, і добры.

**– А асаблівасці характару каня ці ўплываюць на працэс трэніровак?**

– Ну а як жа без гэтага? Конь, у залежнасці ад свайго настрою, і скінуць конніка з сядла можа.

**– Калі настрой дрэнны?**

– Ды я сказаў бы, хутчэй наадварот. Добры ў каня настрой, хочацца яму несціся галопам, душа ў яго патрабуе волі, толькі і трымайся. А калі конь адчуе, што ты яго не кантралюеш, ідзеш у яго на павадзе – пішы прапала.

**– А якімі якасцямі павінен валодаць спартсмен, каб трымаць каня ў цуглях?**

– Спартсмен павінен быць патрабавальным, настойлівым, мэтанакіраваным... і любіць коней.

### Конь каштуе даражэй за "Мерседэс"

**–А ці можна ў вас набыць каня?**

– Калі ласка, наша Афрадыта абыйдзецца вам у 10 000 долараў.

**– 10 000 – гэта самы вялікі кошт на каня?**

– Не, у нас ёсць коні, якія ацэненыя ў 25 000 долараў і болей. Напрыклад, жарабец Граф гановерскай пароды – адзін з самых найлепшых у рэспубліцы. Ён і ў спаборніцтвах удзельнічае, і ад яго жарабятак шмат.

**– А што за людзі набываюць коней?**

– Розныя. Многія купляюць коней дзеля развядзення. Некаторыя набываюць у свае калекцыі, а хтосьці – для душы. Да нас кожны дзень прыязджае жанчына, каб пакатацца на сваім уласным кані, які знаходзіцца ў нас на ўтрыманні. Ды і ўвогуле цікавасць да коней больш праяўляюць гарадскія жыхары, нашых мясцовых ні за якія пернікі не заманіш на канюшню.

**– Нават проста пакатацца?**

– Нават і пакатацца прыязджаюць пераважна з горада. Мы, праўда, цяпер не займаемся пракатам коней, за гэта адказвае дзіцячая спартыўная школа. Але я магу сказаць, што заняткі для пачаткоўцаў праводзяцца кожныя выхадныя з 14 да 17 гадзін.

**– А калі аддаваць дзіця ў конны спорт, з якога ўзросту гэта можна зрабіць?**

– Гэта вельмі індывідуальна. Як правіла, з 11-гадовага ўзросту. Але я свайго сына пасадзіў на каня ў 7 гадоў, а ў 11 ён ужо быў пераможцам у спаборніцтвах. Цяпер жыве ў Маскве, уваходзіць у пяцёрку лепшых коннікаў Расіі.

### Было і такое, што ў канюшні абвалілася столь

Рушым далей па канюшні, Уладзімір Мікалаевіч спыняецца ля кожнага стойла. Заўважае, што на адным з іх паднятая завала. Аднойчы такое было, калі коней заганялі табуном, то адну кабылу прышчынулі да такой паднятай ручкі і яна разарвала сабе бок аж да рабрыны. Таму і за такімі рэчамі трэба сачыць вельмі пільна. Тут жа, у канюшні, заўважаю каня, які адзін застаецца ў стойле, астатніх вывелі на двор у загон.

– Ён сляпы зусім, мы яго нават на двор з праблемамі выводзім. Працаваць на ім нельга.

**– І што з ім будзе?**

– Прыйдзецца аддаваць на мяса. Шкада, канешне, але гэта жыццё. Бачыце, якая столь у нас цяпер добрая, мяняе тэму размовы мой суразмоўца, а было і такое, што абвалілася аднойчы. На шчасце, коні на вуліцы былі. Я пераживаю за ферму. Калі да нас прыязджаў прэзідэнт, я яму паказаў і столь, і тое, што ў нас на вокнах наледзі было ў тры пальцы. І пасля гэтага знайшліся грошы і на рамонт, і на ацяпленне. Я вам так скажу: здзекавацца з коней я не дазволю нікому. Таму, бывае, і прыходжу сюды адзін, каб накарміць і напаіць кожнага. Конь жа не вінаваты, што тым, хто яго даглядае, грошай не плацяць.

**Наталля ТУР.**

---

НАВІНЫ

## Ёсць 800 галоў!

**ВІЛЕЙКА.** Адбыліся чарговыя матчы 20-га штогадовага турніру па мініфутболе.

29 лістапада каманда райаддзела па надзвычайных сітуацыях абыграла "Вілію" 8:3, "Буддэталі" – "Рубін" 4:3, "Шылавічы" былі мацнейшымі за "Макаўе" 5:3. "Страла" прайграла "Воўкаўшчыне" з лікам 0:4.

У нядзелю, 1 снежня, адбыліся сем матчаў.

"Алькот" – "Юніёр" 4:8, "Крыніца" – "Буддэталі" 2:17, "Алькот" –"Воўкаўшчына" 9:10, "Крыніца" – "Рубін" 10:5, "Вілейка town" – "Шылавічы" 1:14, "Першы Беларускі" – райаддзел па надзвычайных сітуацыях 6:3, "Макаўе" – "Вілейка town" 11:4.

Без паражэнняў у сваіх групах ідуць каманды "Першы Беларускі" і "Буддэталі".

Лепшым бамбардзірам турніру з'яўляецца **Алег Губіч** з каманды "Буддэталі". Ён забіў 18 галоў. А ў гэтым туры ён пераадолеў планку ў 800 галоў за ўсе 20 турніраў. Пра ўсё гэта паведаміў інструктар-метадыст раённага фізкультурна-аздараўленчага цэнтра "Імпульс" **Аляксандр Вайда**.

## Юбілейны турнір па каратэ

**ВІЛЕЙКА.** 30 лістапада ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры "Імпульс" прайшоў турнір па каратэ, прысвечаны 25-годдзю клуба "Самурай".

Удзельнічалі ў ім каля 70 чалавек з Вілейкі і Барысава.

Вельмі добра выступіў **Ян Раманоўскі**, які заняў два першыя месцы: у вагавай катэгорыі да 30 і больш за 30 кілаграмаў. **Улад Закрэўскі** заняў другое месца ў сваёй узроставай групе (10-11 год) і стаў чэмпіёнам у групе 12-13 год. У сваіх узроставых групах сталі чэмпіёнамі **Мікіта Кірыевіч, Андрэй Мацко**, вызначыліся і іншыя віляйчане.

– Многія дзеці ўпершыню ўдзельнічалі ў спаборніцтвах, – расказаў трэнер клуба "Самурай" **Сяргей Кірыевіч**. – Некаторыя з іх здолелі паказаць добрыя вынікі. Так, **Уладзіслаў Навойчык** і **Дзмітры Якавец** былі трэцімі.

Прыехалі на юбілейны турнір заснавальнік і старшы трэнер клуба "Самурай" **Аляксандр Паліўка**, былыя выхаванцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

---

СПОРТ

## У Мядзеле развіваюць карфбол

**МЯДЗЕЛ. З такім відам спорту, як карфбол, мядзяльчане ўпершыню пазнаёміліся напрыканцы чэрвеня гэтага года.**

Тады ўдзельнікі аўтамотаагітпрабегу Мінск – Мядзел наўпрост на цэнтральнай плошчы горада паставілі абсталяванне і вучылі ўсіх ахвотных. І ў выніку адзначылі, што юныя мядзяльчане зацікавіліся гэтым відам спорту.

Што ж гэта за гульня такая? У 1902 годзе карфбол стварыў галандскі настаўнік фізічнай культуры Нiка Брэкхусэйн. Гэта спартыўная гульня падобная на баскетбол. Асноўная яе мэта – закінуць мяч, які мае параметры футбольнага, у карзіну. Яна размяшчаецца на жэрдцы на вышыні тры з паловай метры (для зусім маленькіх дзяцей яе можна апусціць ніжэй). Асаблівасць гульні ў тым, што тут каманды змешаныя: у складзе кожнай па чатыры хлопцы і дзяўчыны. Каманда дзеліцца пароўну, адна частка знаходзіцца ў сектары абароны, другая – у сектары нападзення. Потым мяняюцца. Забаронена фізічна ўздзейнічаць на саперніка: нельга вырываць або выбіваць мяч з рук праціўніка, біць па руках, затрымліваць гульца. Можна толькі перадаваць або блакіраваць мяч, кідаць мяч у карзіну.

На мінулым тыдні жыхары раёна маглі даведацца пра карфбол больш: з 25 па 29 лістапада ў Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры прайшоў навучальны семінар. Арганізавалі яго аддзел адукацыі, спорту і турызму райвыканкама і старшыня моладзевага грамадскага аб'яднання "Беларуская федэрацыя карфбола" **Сяргей Аляксееў**. Удзельнічалі ў семінары настаўнікі фізкультуры школ, кіраўнікі фізічнага выхавання дашкольных устаноў, трэнеры-педагогі Мядзельскай СДЮШАР. Яны вывучалі правілы гульні, праглядалі відэазапісы спаборніцтваў, самі спрабавалі пагуляць.

У першы дзень семінара прыязджала дэлегацыя з Галандыі – вытворцы абсталявання для карфбола. Майстар-клас па навучанні гэтай гульні правёў трэнер Фэры Вісэр.

Пазнаёміцца з карфболам маглі не толькі дарослыя: вечарам 28 лістапада правялі майстар-клас для мядзельскіх вучняў, а за ім – і турнір. Гульня дзецям спадабалася.

Адзін камплект карфбольнага абсталявання хутка з'явіцца ў фізкультурна-аздараўленчым цэнтры: абяцала яго падарыць Беларуская федэрацыя карфбола.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# Камент-эксперт 

**Прысылайце свае каментары да артыкулаў на інтэрнэт-старонке rh.by ці на e-mail: regionnews@rh.by, regionaljnaja@tut.by**

### Новая эмблема клуба “Маладзечна” толькі на беларускай мове!

Не люблю заўзятараў, не люблю прафесійны спорт. Але, калі гэта зараза тут ёсць, то няхай і гэта будзе сваё, а не рускае. ***Міхал Залескі.***

Шаноўны пан дырэктар! Падтрымайце фанатаў! Мова тытульнай нацыі аніяк не павінна зашкодзіць эмблеме. З верай у ваша разуменне, што мы ўсе – дзеці беларускай зямлі. Павага і любоў да яе праяўляецца, у тым ліку, і праз павагу і любоў да мовы. ***Алена.***

■ ГУЛЯЙ З “РГ”

## Вячаслаў перамог другі раз

**РЭГІЁН. Маладзечанец Вячаслаў зноў перамог у нашай гульні.**

У падарунак мы падрыхтавалі для яго білеты ў тэатр, кнігу і салодкі падарунак.

Адказы Вячаслава.

1. *З чаго пачынаецца тэатр?* Кажуць, што тэатр пачынаецца з вешалкі – і гэта сапраўды так. Бо перш, чым пабачыць і ацаніць акцёрскае майстэрства і сюжэтную лінію, звычайнага наведніка павінна ўразіць усё, пачынаючы ад самога будынка, у якім знаходзіцца тэатр, да ўнутранага ўбранства памяшканняў і нават дызайну білетаў. Тэатр – гэта вялікае мастацтва, і ў ім прыгожай і захапляльнай павінна быць кожная дробязь.

2. *Якія спектаклі хацеў бы паглядзець.* Хацелася б паглядзець “Ідылію” Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, “Сівую легенду” Уладзіміра Караткевіча, ну, і чаму б не замахнуцца на Вільяма Шэкспіра. Думаю, што цудоўны акцёрска-рэжысёрскі калектыў нашага тэатра абавязкова прыўнясе ў класічныя творы свае непаўторныя рысы.

3. *Якая асоба з Вілейкі асабліва цікавая?* Для мяне вельмі цікавая і адметная постаць ураджэнца Вілейшчыны Піліпа Орліка, аўтара першай украінскай Канстытуцыі. Гэта быў чалавек шырокага светапогляду, які нёс слова пра волю і долю да прыгнечанага ўкраінскага народа. Лічу, што менавіта такія людзі, як ён, прадвызначылі існаванне сённяшняй незалежнай Украіны. Цікавая для мяне таксама постаць вілейскага палітычнага дзеяча – Паца.

4. *Якія мясціны цікавяць?* Люблю сваё роднае Лебедзева. Мястэчка з вялікай і слаўнай гісторыяй – мой бацькоўскі кут. Хацелася б прачытаць як мага больш пра яго. Радашкавічы, у якіх цяпер працую, таксама годныя павагі і маюць шмат адметных старонак, якія, я ўпэўнены, былі б цікавыя для чытачоў “РГ”.

Мы працягваем разыгрываць прызы і чакаем адказаў на **наступныя пытанні:**

1. Што трэба, каб спартыўнае жыццё ў Маладзечне кіпела?
2. Чым для вас адметная Смаргонь?
3. Што неабходна Мінскаму абласному драмтэатру (кавярня, іншы інтэр’ер, кава-аўтамат)?
4. Як часта варта наведваць тэатр і з якога ўзросту?

Адказы дасылайце на электронную пошту: **regionnews@rh.by**.

**Аддзел інфармацыі.**

■ СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 | | | | | 4 | 2 | | 5 |
| | 5 | 2 | | | 3 | | | 4 |
| | | | | 8 | | 1 | | |
| | 9 | 5 | | | | | | |
| 8 | | | 7 | | 5 | | | 6 |
| | | | | | | 5 | 3 | |
| | | 9 | | 6 | | | | |
| 1 | | | 8 | | | 6 | 7 | |
| 2 | | 6 | 4 | | | | | 8 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



■ КОНКУРС

## Што знайшлі фатографы ў вясельнай капусце?

**МАЛАДЗЕЧНА. Уручэнне першай прэміі ў сферы вясельных паслуг “Вясельная капуста - 2013” адбылося ў Маладзечне 2 снежня.**

За валоданне прэміяй спрачаліся лепшыя маладзечанскія фатографы, відэографы, а таксама вядучыя вяселляў.

На суд журы, у склад якога ўваходзіў фатограф **Сяргей Макараў**, відэааператар **Яўген Сяргееў-Някрасаў**, спявак **Арцём Ахпаш** і практычак вясельных лімузінаў **Аляксандр Аладка**, фатографы і відэографы прадставілі свае работы. Падчас прэзентацыі на экране, журы ацэньвала стыль, адпаведнасць музычнага суправаджэння, сюжэтнасць работы. Вядучыя вяселляў прадстаўлялі фрагмент забаўляльнай праграмы. За кароткі адрэзак часу ім трэба было прадэманстраваць свае здольнасці ў валоданні залай, насычанасць і цікавасць забаўляльнай праграмы.


Фота Наталлі ТУР.

**Відэограф Дзмітры Баранаў таксама ў прызёрах.**

У выніку лепшым фатографам стаў **Дзмітры Кароль**, лепшым відэографам **Руслан Сяргей** і яго студыя “S.R. studio”, лепшым вядучым **Міхаіл Монід.**

Арганізатар мерапрыемства **Ірына Платонава** выказала меркаванне, што ў прэміі ёсць усе шанцы стаць штогадовай.

А на пытанне, чаму назва прэміі “Вясельная капуста”, Ірына адказала: “Капуста – самая вясельная агародніна. У кагосьці яна асацыюецца з дзецьмі, якія нараджаюцца пасля вяселля, а для кагосьці “капуста” – гэта грошы, якія дорацца і трацяцца на вяселле”.

**Наталля ТУР.**

■ РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Камедыя “**Востраў невязення**” (Расія, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
6 снежня – 19.00
7 снежня – 21.00
8, 9 снежня – 19.00
10 снежня – 21.00
12 снежня – 19.00
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма “**Географ глобус прапіў**” (Расія, 2013, для гледачоў, якім за 16 год)
6 снежня – 21.00
7 снежня – 18.30
8 снежня – 16.30, 21.00
9 снежня – 21.00
10 снежня – 18.30
11 снежня – 18.30, 21.00
12 снежня – 21.00
Кошт білета – 30 000 рублёў.

Анімацыйная камедыя “**Выратаваць Санту**”, 3D (Велікабрытанія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
6 снежня – 17.00
7 снежня – 14.00
8 снежня – 14.30
12 снежня – 17.00
Кошт білета – 25 000 рублёў.

Фэнтэзі, прыгоды “**Тор 2: Царства цемры**”, 3D (ЗША, 2013, дзецям да 12 год прагляд дазволены ў суправаджэнні бацькоў ці педагога)
7 снежня – 16.00
11 снежня – 16.30
Кошт білета – 40 000 рублёў.

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя “**Любімчыкі**” (Іспанія)
7, 8 снежня – 15.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Прыгоды, фэнтэзі “**Апошні дракон: У пошуках магічнай жамчужыны**” (Аўстралія)
7, 8 снежня – 17.00
Кошт білета – 15 000 рублёў.

Трылер “**Перавозчык 3**” (Францыя, Вялікабрытанія, ЗША)
6, 7 снежня – 21.30
8 снежня – 19.30
9-11 – 21.30
12 снежня – 19.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Драма, трылер “**Саламон Кейн**” (Францыя, Чэхія, Вялікабрытанія)
6 снежня – 17.30, 19.30
7 снежня – 19.30
8 снежня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.

Трылер “**Зыходны ход**” (ЗША)
10, 11 снежня – 19.30
12 снежня – 21.30
Кошт білета – 35 000 рублёў.
Тэл. **: 8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

### Рэпертуар на снежань

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**“Шукаю сапраўднага мужчыну”** (камедыя ў 2-х дзеях), Алена Папова
6 снежня – у 19.00

ПРЭМ’ЕРА. **“Падобны на Стынга”** (рэтра ў 2-х частках), Ірына Пісьменная
7 снежня – у 17.00

Тэатр мае права на замену спектакляў.
Маладзечна, вуліца Чкалава, 7, тэл: **76-17-32, 75-24-17.** E-mail: modt@tyt.by.

## Мінскі абласны тэатр лялек “Батлейка”

**“Казка пра Ямелю ”.** Е.Тарахоўская.
**8 снежня – у 12.00.**

Чакаем вас: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

■ ГАРАСКОП (6-12 СНЕЖНЯ)


**Авен.** Удзяліце які дзень паездцы на прыроду. Не бойцеся ветру, падстаўляйце яму свой твар, адчуйце адзінства з прыродай. Калі не атрымаецца, схадзіце на выставу, у тэатр.


**Цялец.** Вам выпадае адзін з тых рэдкіх шанцаў, якія становяцца прычынай маштабных кар'ерных узлётаў. Будзьце гатовыя крута памяняць свой лад жыцця.


**Блізняты.** Не разглядайце сітуацыю, якая склалася, з пазіцыі сілы, пачакайце пару дзён, і абставіны самі складуцца на вашу карысць.


**Рак.** Наладзьце адносіны з блізкімі людзьмі. Пагаварыце адкрыта, ад душы, так вы пазбавіцеся ад грузу. Да таго ж, ёсць усе шанцы, што яны зразумеюць. Нават калі праблему не ўдасца вырашыць імгненна, гэта ўсё роўна пойдзе на карысць адносінам.


**Леў.** Паглядзіце на навакольны свет з аптымізмам, да любой справы падыходзьце творча. Энергетычны рэсурс расходуйце дастаткова рацыянальна, не будзьце падобныя да яркай успышкі.


**Дзева.** Вам неабходны “зыход у сябе”, каб узнавіць сілы і папоўніць запасы энергіі.


**Шалі.** Пазбягайце перанапружання, яно непажадана для вашага здароўя. Размяркуйце правільна час, каб вы маглі займацца справай, якая падабаецца.


**Скарпіён.** У вас можа з'явіцца сур'ёзная падстава задумацца пра сэнс жыцця. Праявіце сілу волі – і вы пазбегнеце сур'ёзных выдаткаў, якія пагражаюць пахіснуць ваша фінансавае становішча.


**Стралец.** Па ўсіх прыкметах, вы знаходзіцеся на парозе вялікіх перамен. Вы нават вырашыце кардынальна змяніць імідж.


**Казярог.** Кантралюйце свой эмацыйны стан, каб не патрапіць у далікатнае становішча і не пасварыцца з блізкімі.


**Вадалей.** Перыяд паспрыяе пашырэнню вашага далягляду, могуць прыйсці новыя цікавыя ідэі, якія захопяць вас з галавой.


**Рыбы.** Не абмяжоўвайце сябе ў наведванні розных свецкіх мерапрыемстваў: на іх вы зможаце займець цікавыя і карысныя знаёмствы, аднак не злоўжывайце, нават калі яны будуць здавацца максімальна выгаднымі. Хутчэй за ўсё, за паслугі запатрабуецца высокая плата.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета


**Камент-эксперт**




Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420**, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

**7 снежня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | 0 / -1 | | 0 / -1 | | -2 / -3 | | -5 / -3 | |
| | 720 | ↗ 7 | 724 | ↘ 6 | 740 | ↘ 6 | 733 | ↗ 4 |
| Вільня | -1 / -2 | | -2 / -2 | | -3 / -2 | | -4 / -2 | |
| | 724 | ↗ 8 | 735 | ↘ 4 | 750 | ↘ 2 | 738 | ↑ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |


Усход 9.19
Захад 16.49
Даўжыня дня 7.30


Усход 12.20
Захад 22.44
Квадра 1




## ПРЫКМЕТЫ

- 7 снежня. "Прыйшла Кацярына – прыйдзе і пярына" (ляжа добры снег).
- Калі не будзе зімою бела, то не будзе ўлетку зелена.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МЯДЗЕЛЕ

# Ці лічыце вы, што купляць рэчы на рынку бяспечна?



**Таццяна Конанава, бібліятэкарка:**

– Якасць рэчаў на рынку пад пытаннем. Многія з іх неправераныя, не маюць сертыфікатаў якасці, невядома адкуль прывезеныя. Але ж купляем, бо цана невысокая.



**Аляксандр Падгол, слесар:**

– Тут трэба глядзець і па цане, і па якасці. Лепш адзенне браць з баваўны, лёну, а не з сінтэтыкі. І лепш купляць абутак і адзенне вядомых беларускіх вытворцаў.



**Іраіда Міклушова, пенсіянерка:**

– Не лічу так. Таму што, бывае, абутак толькі тыдзень паносіш, а ўжо падэшва адляцела. Вось купіла для праўнукаў мазаіку – дык у дзірачкі не заходзіла, давялося кожную дзірачку свярдзёлкам павалічваць.



**Улад Вербіловіч, вучань Занарацкай СШ:**

– Бяспечна, бо рэчы нармальнай якасці. Але што больш якаснае, тое і даражэйшае.



**Таццяна Нырцова, дырэктар цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы:**

– Лічу, што ў асноўным бяспечна. Адзенне нічым не горшае, чым тое, якое ў крамах купляем. Але абутак лепш набываць беларускі.



**Мікалай Верамей, электрык:**

– Нармальныя на рынку рэчы – а дзе ж лепшыя ёсць. Бо ў магазінах і даражэйшае, і выбару няма.



**Галіна Яфрэмава, пенсіянерка:**

– Не лічу, што небяспечныя. Мы ж у буціках сабе не можам дазволіць апранацца. Нашу адзенне, што набываю на рынку, і гэта не адбіваецца на здароўі. Праўда, трэба старацца якасныя рэчы купляць, а не абы-што.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Што рыхтуе знакам задыяку надыходзячы год? Чытайце падрабязны астралагічны прагноз на 2014 год у наступным нумары газеты.**

## А ВЫ ВЕДАЕЦЕ, ШТО

* Эскімосы летам мусяць абмазваць адкрытыя часткі цела брудам, каб пазбегнуць укусаў насякомых.

* Калумб лічыў, што Зямля мае форму грушы.

* Два самыя высокія зафіксаваныя паказчыкі IQ належалі жанчынам.




**Рэгіянальная газета**
Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 49 (971) 6.12.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўская, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 1123. Падпісана ў друк у 10.00 5.12.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.